# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 29 (1679) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 17 ЛІПЕНЯ 1988 г. ЦАНА 20 зл.

## Свята нашай культуры

Беларуская песня раз у год, пераважна ў чэрвені, выходзіць на вуліцы Беластока. Памятаем, якім вялікім святам была для нас першая сустрэча ў гарадскім амфітэатры тры гады назад з нагоды 30-годдзя існавання Беларускага таварыства. Але і раней адбываліся ў Беластоку беларускія фэсты з багатай мастацкай праграмай на гарадскіх эстрадах.

Цяпер, на маю думку, свята беларускай культуры ўваходзіць у трывалы каляндар нашых беларускіх мерапрыемстваў.

Сёлетняе свята беларускай культуры было прысвечана 30-годдзю літаратурнага аб'яднання „Белавежа". З'ехаліся ў Беласток амаль усе найлепшыя калектывы, лаўрэаты конкурсаў беларускай песні для дарослых і школьнікаў. Падрыхтаваліся цудоўна. Кожны з іх мог бы даць уласнымі сіламі канцэрт на некалькі гадзін, як гэта ўжо не раз пры розных нагодах бывала. Ушанаваў таксама наша свята сваёй прысутнасцю малады народны ансамбль беларускай музыкі з Гродзенскага гарадскога дома культуры. Былі на свяце нашай культуры і замежныя госці з БССР і ЗША, якія былі запрошаны на навуковую сесію, прысвечаную 30-годдзю аб'яднання „Белавежа".

Адкрыў канцэрт зводны беларускі хор, які складаўся са спевакоў гарадоцкага і беластоцкага калектываў, працуючых пад адзіным музычным кіраўніцтвам Сцяпана Копы. Хор прывітаў гасцей папулярнай ужо ў нас песняй „Вітаем, госці дарагія" на словы арганізатара гарадоцкага калектыву і яго душы па сённяшні дзень Ніны Мушынскай. З уступным словам, дарэчы, вельмі сімпатычным і цікавым, выступіў адзін са старэйшых і найбольш папулярных „белавежцаў" Алесь Барскі.

На пачатак на сцэну былі запрошаны дзеці — лаўрэаты конкурсу „Беларуская песня '88" для школьнікаў. Першай спявала маленечкая першакласніца з Чыжоў -Юля Карзуновіч. Яе моцны галасочак, які заклікаў:

Дзе б ты ні пасяліўся,
Дзе б ні звіў сабе гняздо,
Помні, дзе ты нарадзіўся,
Дзе калісь быў малышом, —

увёў гледачоў у сімпатычны, свойскі настрой. (А пры нагодзе, мне ніяк не ўдалося знайсці аўтара слоў гэтай стаўшай ужо народнай песні. Можа, аўтар адгукнецца?). За Юляй спявалі Адам Жарначук — шасцікласнік з Рыбалаў, дзяўчаткі-школьніцы з Беластока, „Беларусачкі" з Дашоў, „Лянок" з Кляшчэляў...

Пасля дзяцей выйшлі на сцэну маладыя яшчэ, але ўжо з

(Працяг на стар. 6)



*Салістка народнага ансамбля беларускай музыкі з Гродзенскага гарадскога дома культуры Зоя Дзмітрук. Яе багатае нацыянальнае адзенне — гэта ўрачысты шлюбны ўбор: саматканая багата расшытая нацыянальным арнаментам суkенка, паверх такая ж спадніца ды дапасаваная ў таліі камізэлька.*

РАСКАЗВАЕ ДАНУТА БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА

## Паходня — гэта агонь

Спрадвеку, калі толькі чалавек навучыўся карыстацца агнём, **паходня** вызначала яму шлях сярод начной цемры. І ў наш час, у час тэхнічнай рэвалюцыі ды няведаных здабыткаў навукі, душа чалавека астаецца загубленай сярод заблытанасці колішніх і сучасных вельмі ж складаных праблем, яна патрабуе вядучага святла, гэтага першапачатковага агню, прамяністай паходні. Каб пранікнуць у істоту справы, каб не аглохнуць ад напорыстай напластоўкі чужога, каб дакапацца да асноў таго духоўнага гмаху, у якім расла самабытная культура нашых дзедаў-прадзедаў, — дзеля гэтага неабходна светаводная паходня.

Вось такая радаслоўная і ў гродзенскай „Паходні". Пад гэтай эмблемай рэкамендуецца **гістарычна-культурны самадзейны клуб.** Гродзенская паэтка **Данута Бічэль-Загнетава** расказвае:

— 12 красавіка 1986 года ў гарадскім Доме культуры ў Гродне сабралася група маладых, але ўжо высока адукаваных, свядомых людзей, пераважна супрацоўнікаў Гродзенскага філіяла Акадэміі Навук БССР. У нас у Гродне знаходзіцца Інстытут біяхіміі, якім кіруе **Юрый Міхайлавіч Астроўскі.** Ён, зразумела, у гэтым першым сходзе не ўдзельнічаў, але пазней некалькі разоў я бачыла яго на розных іншых сесіях клуба „Паходня".

— Ці гэтую дату, 12 красавіка 1986 года, можна лічыць фармальным пачаткам існавання „Паходні" ў Гародні? — пацікавіўся я.

— Безумоўна, так, — рашуча сцвердзіла Данута Янаўна, а я тут жа падумаў пра іншую гістарычную падзею, якая на векавечна зраслася з датай 12 красавіка. У гэты дзень 1961 года чалавек упершыню адарваўся ад сваёй маці-Зямлі. Юры Гагарын паходню чалавечага розуму занёс у касмічную вышыню, каб пасля 108 мінут зноў вярнуцца да людзей. Не ведаю, ці гродзенскія „паходнеўцы" спецыяльна падабралі гэты дзень, каб адзначыць 25-ую гадавіну касмічнай эры, ці проста склікалі яны свой сход таму 12 красавіка 1986 года, што была гэта субота, дзень, свабодны ад прафесійных заняткаў. Данута Янаўна неяк таксама не звярнула асаблівай увагі на гэтае проста сімвалічнае супадзенне дзвюх дат. Яна працягвала свой расказ:

— Вось тут адразу сярод прысутных сваёй энергіяй і разважлівасцю вылучыўся **Мікола Таранда,** кандыдат біялагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута Біяхіміі Акадэміі Навук БССР, член Кампартыі Беларусі. Ён і стаў адказным сакратаром гістарычна-культурнага клуба „Паходня".

У першым пасяджэнні ўдзельнічала каля 20 чалавек — дзяўчат і хлопцаў, пераважна яшчэ незамужніх і нежанатых, ва ўзросце 25-35 гадоў. Аб'ядноўвала іх адно жаданне: даведацца пра тое, чаго аб бацькаўшчыне і аб народзе не вучылі іх у школе ды і ў вышэйшых навучальных установах. І ўжо ў час гэтага першага, бадай, гістарычнага пасяджэння, выявілася патрэба запрасіць у правадыры чалавека, які ведаў бы куды кіраваць святло гэтай іхняй паходні. Выбар быў просты. У Гродне жыве і працуе ва універсітэце выдатны археолаг і знаўца мінулага беларускай зямлі — **Міхаіл**

(Працяг на стар. 6)

# АМЕРЫКА, ЯКАЯ ТЫ?

## ПЕРШАЕ АЎТАРСКАЕ СПАТКАННЕ

Пазнаёміўшыся дакладна з універсітэтам, мы яго не пакінулі. Справа ў тым, што ў гэтым жа універсітэце мела адбывацца маё першае публічнае выступленне. Тым, якія не ведаюць заходніх звычаяў, хачу сказаць, што на Захадзе на спатканне з замежным навуковым супрацоўнікам, як правіла, прыходзіць пяць-сем асоб. У маім выпадку было лепш. Аднак адбылося так не таму, што амерыканская грамадскасць прападае за мною, а таму, што на гэта спатканне прыйшлі беларусы, якія ўжо ведалі мяне з 1981 года. Зразумела, што мне было вельмі прыемна ўбачыць знаёмыя твары. Цікава і тое, што ніхто з маіх знаёмых за гэтыя шэсць гадоў не пастарэў, а пані дык нават як бы і памаладзелі.

Сустрэчу адкрыў, як і шэсць гадоў таму назад, прафесар Томас Бэрд. Гаварыў ён аб патрэбе кантактаў паміж прадстаўнікамі Усходу і Захаду. Успомніў вельмі сімпатычна свой побыт у Польшчы як удзельніка канферэнцыі, прысвечанай 30-годдзю Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Падкрэсліў патрэбу культурнага, навуковага і паэтычнага абмену. Пасля ўступнага слова перадаў голас мне. Не выпадае мне шырока разводзіцца аб тым, як я гаварыў, што я гаварыў і якое выклікаў уражанне. Было б гэта эгацэнтрычнай нясціпласцю. Скажу толькі, што гаварыў аб асноўных напрамках дзейнасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства, аб блясках і ценях паэтычнай прафесіі. Галоўную ўвагу прысвяціў пабудове Беларускага музея ў Гайнаўцы, раздаў бланкі прыгожых падзякаў, якія апрацаваў графічна наш гайнаўскі мастак Янка Салаванюк, тым прысутным, якія ўнеслі акрэсленыя сумы ў фонд пабудовы музея. Падзякі вельмі спадабаліся сабраным. У сувязі з тым, што я прасіў уносіць далейшыя складчыны, прысутная прыгожая пані Вера Бартуль паінфармавала мяне, што яна сабрала далейшых больш чым чатырыста доляраў на музей.

Прысутныя паставілі мне шэраг пытанняў, якія галоўным чынам адносіліся да стану нацыянальнай свядомасці сярод беларускай меншасці ў Польшчы. Другая катэгорыя пытанняў была звязана, калі так можна назваць, з характарам і натурай паэтычнай творчасці. На просьбу прысутных даваліся чытаць свае вершы. Некаторыя пытанні адносіліся да прысутнага на сустрэчы дэкана Альберта Барташэвіча, які даволі шырока расказаў аб працах, звязаных з беларуска-польскім слоўнікам.

Аказалася, што сярод слухачоў знаходзяцца мае старыя знаёмыя, пляменнікі Якуба Коласа — Валянцін і Алесь. Для паяснення інфармую, што з'яўляюцца яны сынамі роднай сястры Якуба Коласа Міхаліны, якая, маючы з дому прозвішча Міцкевіч, выйшла замуж таксама за Міцкевіча. Алесь жыве да сёння з родным братам Якуба Коласа Міхасём. Шэсць гадоў таму назад я быў у доме Алеся і сустрэўся там з яго дзядзькам Міхасём Міцкевічам. Зразумела, што сустрэча з родным братам славутага пісьменніка не магла не выклікаць у мяне хваляванняў. Я, зрэшты, пісаў аб гэтым у сваіх рэпартажах, змешчаных у „Ніве" за 1982 год. У час даўжэйшай размовы з Алесем Міцкевічам даведаўся я, што Міхась Міцкевіч цяжка хворы, што яму ўжо за дзевяноста і што на гэты раз з увагі на стан здароўя сустрэча з Міхасём Міцкевічам немагчыма. Зразумела, што вестка аб дрэнным здароўі апошняга жывога брата Якуба Коласа мяне моцна засмуціла. Вядома, што чалавек, які перакрочыў 90 гадоў, не можа разлічваць на аптымістычныя перспектывы. Прызнаюся, што мне сардэчна шкада Міхася Міцкевіча. Вярнуўшыся ў Польшчу, я атрымаў ад Алеся Міцкевіча 131 нумар „Вестак — Паведамленняў Аддзелу Беларуска-амерыканскага задзіночання" ў якім на першым месцы знайшоўся наступны камунікат:

„Прафесар Бэрд з Квінс каледжу запрасіў на 16 кастрычніка дзекана Катэдры Беларускай Філалогіі пры Варшаўскім універсітэце праф. Барташэвіча й кіраўніка гэтай Катэдры Аляксандра Баршчэўскага (Алеся Барскага) прачытаць даклад пра працу ў катэдры й пра пісьменскую й грамадскую дзейнасць А. Баршчэўскага, які з'яўляецца й старшынём Беларускага грамадска-культурнага Таварыства ў Польшчы.

А. Баршчэўскі гаварыў пра ролю, долю паэты, ды пра паэзію наогул. Ён казаў, што часамі ўкрадаецца такая мінута, калі паэт сумняваецца ў эфекце паэзіі. Але калі ён прадэкламаваў некалькі сваіх вершаў, а ў тым ліку верш „Маці", то пераканаўся аб добрым эфекце свае паэзіі на прысутных. Па дакладзе А. Баршчэўскі расказаў пра ход пабудовы Беларускага музею ў Гайнаўцы ды апэляваў да беларусаў Амерыкі, каб памаглі Музею грашова".

Гэтае прыемнае для мяне першае спатканне закончылася гарбатай і коржыкамі. У нас, як вядома, такія сустрэчы найчасцей заканчваюцца па-другому.

**Алесь Барскі**

# ПЕРАД XI З'ЕЗДАМ БГКТ

## КАСТУСЬ МАСАЛЬСКІ



Вядомы ён у гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку як адданы дзеяч. Нямногія беларусы-вайскоўцы праяўляюць такую актыўнасць у працы Беларускага таварыства, як маёр Кастусь Масальскі. Ён ужо пенсіянер і многа вольнага часу прысвячае дзейнасці БГКТ. Беластоцкія БГКТоўцы неадноўчы чулі яго канкрэтныя і канструктыўныя выступленні на розных форумах.

Кастусь Масальскі ў другой палавіне 60-тых гадоў быў старшынёй Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку, а ў яго ўладах знаходзіцца да сёння. Адначасна з'яўляецца ён членам Галоўнай рэвізійнай камісіі Таварыства.

Апрача таго, Кастусь Масальскі добры пчаляр і нумізматык. Вельмі цікава паглядзець яго шматлікія альбомы, напоўненыя банкнотамі з розных гістарычных перыядаў. Шмат у яго рознага роду манет.

На з'ездзе БГКТ плануе ён закрануць тэму шырэйшых кантактаў Таварыства з Савецкай Беларуссю, а таксама ўшанавання памяці рэвалюцыянераў і знатных людзей, якія паходзяць з беларускага асяроддзя.

(мх)

## ЯНКА ХІЛІМАНЮК



У галіне будаўніцтва на Гайнаўшчыне значную ролю адыграў і далей адыгрывае цяперашні намеснік прэзаса гарадскога гандлю ПСС „Сполэм" Янка Хіліманюк. У будаўнічых справах ён мае вялікі вопыт. На працягу 7 год (1964-71) узначальваў ён будаўнічы кааператыў „Чын". Кааператыў арганізаваўся, як гэта кажуць, ад нуля. Аднак даволі хутка ўзброіўся ён патрэбнай тэхнікай і пачаткова будаваў вясковыя крамы, а ў гадах 1971-73 разбудоўваў керамічную фабрыку ў Старым Ляўкове.

Наступны дзесяцігадовы перыяд яго працы звязаны з вясковым гандлем, з сельскагаспадарчай вытворчасцю, з жыццём сялян. А былі гэта гады 1975-85, калі Янка Хіліманюк быў прэзасам ГСа ў Гайнаўцы.

Даводзілася яму ў сваім жыцці выконваць шмат іншых штатных функцый і многа грамадскіх, у тым ліку і БГКТоўскіх. Ён ужо другую кадэнцыю з'яўляецца старшынёй Рэвізійнай камісіі Гарадскога аддзела БГКТ у Гайнаўцы.

На думку Янкі Хіліманюка, БГКТ павінна пашыраць сваю дзейнасць. Апрача культурна-асветных спраў, трэба займацца і гаспадарчымі, трэба рабіць заходы, каб у гмінных цэнтрах у беларускім асяроддзі арганізаваць малую перапрацоўчую прамысловасць зямельных пладоў. Гэта ўстрымала б вылюдненне нашых мясцовасцей, дало б людзям працу і заробкі.

(мх)

## СЯМЯЦІЦКІЯ ДНІ КУЛЬТУРЫ

Таварыства прыяцеляў Сямяціч і Сямяціцкі асяродак культуры ў днях 21-29 мая 1988 года правялі VII Сямяціцкія дні культуры.

На працягу дзевяці дзён у горадзе адбыліся многія культурныя мерапрыемствы з удзелам аматараў і беластоцкіх акцёраў і музыкантаў з філармоніі. Былі сустрэчы з вучонымі, дзеячамі і працаўнікамі культуры, дэманстраваліся цікавыя выстаўкі.

Не забракла і беларускага акцэнту. Шосты дзень быў Днём беларускай культуры, а падрыхтаваў яго мясцовы аддзел БГКТ. У гэты дзень А. Барскі сустрэўся з вучнямі сельскагаспадарчай школы ў Чартаеве, В. Швед — з вучнямі пачатковай школы № 1 і В. Петручук — з вучнямі пачатковай школы № 2 у Сямятычах. Увечары адбылася „Літаратурная бяседа" — сустрэча А. Барскага, В. Петручука і В. Шведа з актывам Сямяціцкага аддзела БГКТ. Са сваімі творамі выступілі „белавежцы" і мясцовы паэт Язэп Карпюк, які расказаў некалькі ўласных анекдотаў і прыгожа праспяваў песню на свае словы „Ехаў Янка трактарочкам". У амфітэатры з поспехам выступіў вядомы наш эстрадны калектыў „Дубіны".

Трэба падкрэсліць вялікі ўклад працы і сардэчныя адносіны да правядзення Сямяціцкіх дзён культуры дырэктара Сямяціцкага асяродка культуры Збігнева Тымінскага.

**Віктар Швед**

## ВЕЧАР З ПАЭЗІЯЙ М. ШАХОВІЧА

Беластоцкі аддзел Таварыства тэатральнай культуры ад некалькіх гадоў арганізуе вечары паэзіі беластоцкіх паэтаў. Прэзентавалася ўжо паэзія Збігнева Слёнчкі і Крыстыны Канэцкай.

У панядзелак, 27 чэрвеня, у настаўніцкім клубе „Бакалаж" у Беластоку адбылася чарговая прэзентацыя, тым разам паэзіі Міхася Шаховіча. Была гэта прэм'ера спектакля „Святая ноч" паводле аднайменнай паэмы, перакладзенай на польскую мову Янам Леанчуком. Спектакль падрыхтавалі і выканалі: Аліцыя Буткевіч з Беластоцкага тэатра лялек і Анджэй Карольчык, кіраўнік клуба „Бакалаж". Ён таксама склаў музыку да пастаноўкі.

Гэты цікавы спектакль, пачынаючы ад верасня, можна будзе пабачыць у Беластоку і ў многіх мясцовасцях не толькі на Беласточчыне.

(л)

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

**АДНЫМ: НЯМА СЛАДАСТРАСНАСЦІ БЕЗ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ; ДРУГІМ: НЯМА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЗ СЛАДАСТРАСНАСЦІ. — ВЫБІРАЙ ШТО ХОЧАШ!**

Глыбока паважаныя і дастойныя вучні, студэнты і ўсе тыя, хто адчувае сябе маладым! Пачынаючы сваю летнюю вандроўку не толькі па Польшчы, але і за межамі (усходы і заходы сонца варта пабачыць у розных краінах), захапляючыся даўняй архітэктурай і здабыткамі сучаснае цывілізацыі, у міжчасе гледзячы соладка ў вочы сваёй або свайму найдаражэйшаму, ці мы хаця раз затужым па сваім родным слове? А мо ў ... пагоні за прыгожымі самцамі ці самкамі забудзем аб усім? Але памятайма, даражэнькія, калі новыя знаёмствы, то і новыя клопаты, а калі гэта будуць клопаты з каханнем, то хто табе дапаможа ў чужой зямельцы? А тады раю ўсім прыпомніць Сэрцайка і яго добрыя парады, з якіх вы напэўна не раз карысталі. Бо з гэтым каханнем у беларусаў адны клопаты. Хлопцы спраўныя, вясёлыя, адборныя і ўсе прыгожыя, не гаворачы аб нашых дзеўках, якія з'яўляюцца цудоўнымі чараўніцамі мужчынскіх сэрц; адны і другія — страшэнна кахлівыя. І вось калі мае дайсці ўжо да мужчынска-жаночых зносін і наступае гэтак званая кульмінацыя, то... (зацытую тут словы аднаго нашага маладога паэта, пакуль што мала вядомага шырэйшаму кругу чытачоў)... „Дзень адыходзіць, ноч наступае, свядомасць наша ўсё ападае". А без свядомасці, даражэнькія, „nie można będzie robić Białorusi", або „без сознания никто не будет строить Белоруссию". Так што ў сваёй летняй адданасці каханню, давайце не патрацім усіх сіл, хай іх крыху астанецца і на іншыя справы.

P.S. Думаю, што цікава было б пачуць ад вас саміх, дарагія чытачы „Прысутнасці", ці можна і, калі так, то як спалучыць сладастраснасць і незалежнасць. Чакаем лістаў аб летніх прыгодах, самыя цікавыя надрукуем. Таксама, дарагія і кахлівыя чытачы, адкажыце на пытанне, пастаўленае ў загалоўку артыкульчыка. Што вам больш падабаецца? Такім простым і дэмакратычным спосабам адбудзецца першы такі цікавы рэферэндум у нашай старонцы. Але ўжо сёння вядома, што і так 100% асоб, якія дашлюць нам свае прапановы, будзе за першую частку загалоўка.

**Яўген Вапа**

## ВАНДРУЙЦЕ З НАМІ!









*Фота Адама Ляшчынскага.*

## БАЦЬКАЎШЧЫНА 5

Прыпамінаем усім, ад маладога да старога, што ў днях 18—24 ліпеня 1988 г. адбудзецца студэнцкі рэйд па роднай зямлі „Бацькаўшчына — 5".

Час „Бацькаўшчыны" — гэта вандраванне і спазнанне свайго роднага, сустрэчы з цікавымі людзьмі, з праблемамі зямлі беларускай, ды адначасная вясёласць і пацехі. Тыя, што былі — прыйдуць, а хто яшчэ не быў — няхай прыйдзе. Чакаем!

Праграма нашага сёлетняга падарожжа такая:

18.07.88 — удзельнікі, хто чым, дабіраюцца ў Драгічын, і пад вечар спатыкаюцца на аўтобусным вакзале,

19.07.88 — падарожжа: Драгічын — Сямяцічы,

20.07.88 — Сямяцічы — Мельнік,

21.07.88 — Мельнік — Такары,

22.07.88 — Такары — Нурэц-станцыя,

23.07.88 — Нурэц-станцыя — Чаромха. Там прадбачваецца заканчэнне рэйду. Наступнага дня раз'едземся хто куды.

Прачытай! Запамятай! Прыйдзі!

## КУПАЛІНКА, КУПАЛІНКА!

Чарговы — бо трэці ўжо раз у Супраслі адбылося святкаванне Купалля студэнцкай і вучнёўскай моладдзю. У суботу 25 чэрвеня прыехала ў гістарычную мясціну Супрасль, што непадалёку ад Беластока, моладзь, для якой старажытныя абрады маюць нейкае эмацыянальнае значэнне.

Роўна ў 22 гадзіны загарэлася вогнішча, якое адкрыў Ю. Ляшчынскі. Усім прысутным перадаў ён прывітанні ад суполак з Савецкай Беларусі і паінфармаваў, што адначасна з нашым распачынаюцца вогнішчы ў нашых сяброў з-за мяжы. Стварыла гэта яшчэ адну духоўную лучнасць з нашай супольнай Бацькаўшчынай. Пасля ўрачыстага адспявання песні „У гушчарах" Мікола Ваўранюк коратка расказаў аб значэнні Купалля, з чым звязанае гэтае свята, як гулялі ў гэтую ноч. Каб нашыя гульні не былі ў адарванасці ад мінулага, Валянцін Сельвесюк прыпомніў апісанне ночы Купалы з 1817 года, змешчанае ў „Віленскім дзённіку". Некаторыя фрагменты выклікалі сімпатычныя ўсмешкі на тварах прысутных.

Непаўторную атмасферу ўвялі купальныя песні і карагод у апрацоўцы Марылькі Базылюк і Элі Бэзюк, якія былі добрым прагнозам удалага мерапрыемства. З карагоду ўсе дзяўчаткі пайшлі пускаць вянкі па рацэ. Згодна з традыцыйнымі пераказамі, не ўсе яны могуць пускаць вянкі, але разумеючы цывілізацыйны і культурны прагрэс, хлопцы згадзіліся даць такі шанц усім прысутным прыгажуням. Нягледзячы на халодную ваду, знайшлося некалькі хлопцаў, якія кінуліся ў рэчку і стараліся злавіць вяночкі, а тым самым здабыць жаночае сэрца.

А потым вярнуліся да вогнішча, дзе распачаліся далейшыя гульні і пацехі. Сэрца і душа грэліся ад вогнішча і песень. Зразумела, што былі і іншыя „сродкі", якія таксама дапамагалі весела ўспрымаць атмасферу ночы. Здаецца, што некаторыя пайшлі нават шукаць кветку папараці (зразумела, парамі). Шукаць даводзілася вельмі доўга, бо з пошукаў вярталіся вельмі змучаныя, але і задаволеныя. Забава працягвалася цэлую ноч, а некаторыя не кладліся нават спаць, каб найдаўжэй трывалі незабыўныя хвіліны. Купалле дае ўсім нам магчымасць спаткаць старых знаёмых, пазнаць новых сяброў, якім родная культура не з'яўляецца чужаніцай.

Сёлета ў нашым свяце прыняла ўдзел невялікая група польскай моладзі, пераважна з клуба „Памосце", для якой была гэта сустрэча са спецыфікай беларускай нацыянальнай абраднасці.

Гэтае мерапрыемства не было б магчымае без добразычлівасці і дапамогі сям'і Латышонкаў, якія традыцыйна аддаюць нам сваю кватэру на розныя мерапрыемствы.

Да сустрэчы праз год на свяце Купалля! Кожны, хто не знайшоў кветкі папараці цяпер, мо знойдзе яе ў будучыні.

**Лесавік**

ПРЫСУТНАСЦЬ
студэнцкая старонка

*Рэдкалегія: Яўген Вапа, Мікола Ваўранюк, Юрка Ляшчынскі, Валянцін Сельвесюк, Лявон Тарасэвіч.*

## БЕЛАРУСІКІ


Litwinow Jerzy, Bibliografia publikacji pracowników Instytutu Filologii Rosyjskiej i Słowiańskiej UAM (1965—1975), *Studia Rossica Poznaniensia* 1977, z. 9, s. 235—257.

L.O., Kombinat drobiarski w Mołodecznie, *Drobiarstwo* 1980, nr 6, s. 21—22, tab.

Lohman Jerzy, Osiem białoruskich dni (Dni Literatury Polskiej na Białorusi), *Zycie Literackie* 1976, nr 45, s. 1, 9, il.

Lovell Jerzy, Polska jakiej nie znamy, Mniejszości: Egzotyka czy problem, Chorał na trzy głosy, Chorału ciąg dalszy, *Zycie Literackie* 1966, nr 6, s. 3; nr 7, s. 1, 9; nr 8, s. 5.

Lovell Jerzy, Polska, jakiej nie znamy, Białorusini, „Ukraiński kompleks", — „Kompleksu ukraińskiego" ciąg dalszy. *Życie Literackie* 1966, nr 9, s. 3, 5; nr 11, s. 1, 7; nr 12, s. 5, 13.

Lovell Jerzy, Polska, jakiej nie znamy, Zbiór reportaży o mniejszościach narodowych. Kraków 1970, Rec. Rokicki Janusz, *Nowe Książki* 1970, nr 22, s. 1375.

Lucko A. W., Diejatielnost KPB po podboru, wospitaniju i rasstanowkie rukowodiaszczich kadrow 1943—1945 gg, Mińsk 1973. Rec. Materski Wojciech, *Z Pola Walki* 1975, nr 2, s. 195—198.

Łamcew N., Krótsza droga od projektu do obiektu (Rozwój usług na Białorusi), tł. z ros., *Rynek i Usługi* 1976, nr 6, s. 6, il.

Łapicz Czesław, Terminy: (cmentarz), (grób, (mogiła) w ruskich gwarach Białostocczyzny. *Acta Universitatis Nicolai Copernici. Filologia Polska* t. 12, 1977, s. 57—63, mapa.

Łapicz Czesław, Nazwy leśnych przestrzeni niezarośniętych w ruskich gwarach Białostocczyzny. *Acta Universitatis Nicolai Copernici. Filologia Polska*, t. 14, 1979, s. 55—63.

Łapisz Czesław, Sematyczna i etymologiczna analiza leksyki geograficznej ruskich gwar Białostocczyzny z gniazda znaczeniowego „gąszcz, zarośla, krzaki". *Zeszyty Naukowe Wydziału Humanistycznego Uniwersytetu Gdańskiego, Slavistyka* 1979, nr 2, s. 37—56, mapy.

Łapicz Czesław, Podstawowe modele semantycznych zmian w terminologii geograficznej wschodniosłowiańskich gwar Białostocczyzny. *Zeszyty Naukowe Wydziału Humanistycznego Uniwersytetu Gdańskiego. Slavistyka* t. 1, 1978, druk 1979, s. 7—16.

Łapicz Czesław, Terminologiá geograficzna w ruskich gwarach Białostocczyzny na tle wschodniosłowiańskim. Warszawa, PWN 1981, s. 170. Towarzystwo Naukowe w Toruniu. — *Prace Wydziału Filologiczno-Filozoficznego Towarzystwa Naukowego w Toruniu*, t. 28, z. 2.

Łapicz Czesław, Ze studiów nad słownictwem geograficznym ruskich gwar Białostocczyzny. Terminologia wegetatywna z gniazd semantycznych: „las" — „bór" — „gaj". *Studia nad gwarami Białostocczyzny*, s. 25—42.

Łarczanka Michaś, Jednanie bratnich literatur. Mińsk 1975, Rec. Rahojsza Wiaczesław, tł. Włodzimierz Stochel, *Slavia Orientalis* 1977, nr 3, s. 369—372.

Łatyszonek Oleg, Spojrzenie z boku. (Praca S. Akiner „Współczesna białoruska literatura w Polsce"). *Więź* 1983, nr 11/12, s. 220—222.

Łobanok Uładzimir, Dezyderaty dla deputowanych (Rada Najwyższa Białorusi). Rozm. przepr. Anatolij Stuk, tł. z ros., *Prawo i Życie* 1979, nr 8, s. 15.

Łobanek Vładzimir, drugi front radzieckich partyzantów. W 40 rocznicę wyzwolenia Białoruskiej SRR. Rozm. przepr. A. Stuk, tł. z ros., *Za Wolność i Lud* 1984, nr 27, s. 5—6, il.

Łojka Aleh, Człowiekiem był i bocian przed wiekami (w), tł. z białor. Jan Huszcza, *Kamena* 1977, nr 20, s. 6.

Łojka Aleh, Janka Kupała. Moskwa 1982. Rec. Stochel Włodzimierz, *Slavia Orientalis* 1985, nr 1/2, s. 161—164.

Łojewski Piotr, Naumiuk W., Moja chata z kraju. *Tu i Teraz* 1984, nr 6, s. 13.


P.C.




*Старая хата ў Пасынках.*
*Мал. У. Петрука*

Чалавецтва можа загінуць без атамных выбухаў, без ядзернай вайны — ад экалагічнай катастрофы. Гэтага набліжаючагася няшчасця да канца не зразумелі некаторыя палітыкі, хоць вучоныя даўно ўжо ўзнялі голас трывогі ў абароне навакольнага асяроддзя. З кожным годам значна павялічваецца эмісія атрутных газаў і пылаў, і яны ў некаторых мясцовасцях перакрочылі ўсе біялагічныя нормы, знішчальна дзейнічаючы на прыроду і чалавека.

Забруджваюцца воды ў рэках, азёрах і морах штодзённымі фабрычнымі сцёкамі. У іх гіне ўсялякае жыццё. Газы і пылы, якія спадаюць на зямлю, разам з часта неразумнай хімізацыяй сельскай гаспадаркі атручваюць глебу, а яна дае плады, якія маюць адмоўны ўплыў на здароўе чалавека. Такім чынам, хуткімі тэмпамі мы набліжаемся да парушэння раўнавагі ў прыродзе. Значыць, трэба спяшацца, трэба зрабіць усё, каб стрымаць бег цывілізацыі да нашай гібелі, нельга перакрочыць граніцы здольнасці прыроды да самаачышчэння.

„Ці калісьці гісторыкі з іншай планеты скажуць: нягледзячы на іх здольнасці і геніяльнасць, пайшлі яны на дно ад недахопу паветра, вады і здольнасці прадбачвання?“, — гэтыя словы былі сказаны 20 гадоў таму назад з думкай пабуджэння грамадскай апініі свету да рашучага дзеяння ў напрамку аховы асяроддзя, каб спыніць яго спусташэнне, каб не дапусціць да экалагічнай катастрофы. Генеральны сакратар ААН У Тан на Генеральнай Асамблеі ў канцы мая 1968 года выступіў з рапартам „Чалавек і яго асяроддзе“ і аб'явіў сучасны вялікі крызіс быту чалавека і яго асяроддзя.

## КАБ НЕ БЫЛО ЗАПОЗНА

У той час у Польшчы не думалі аб тым, што прырода сама можа ачышчацца толькі да пэўнага часу, да пэўных граніц. Тады на першым плане была індустрыялізацыя краіны, імкненне да магутнасці шахт, металургічных камбінатаў і фабрык. Тады дымячыя коміны лічыліся прагрэсам, сучаснасцю. І ніхто гэтаму асабліва не пярэчыў. „Найперш узбагацімся, а пасля задбаем аб ахове прыроды“, — такая панавала тады паўсюдная думка. Вось таму пры пабудове прамысловых аб'ектаў не будавалі ачышчальняў і абсталяванняў, якія абмяжоўвалі б затручванне вады і паветра. Праўда, гэтыя ачышчальныя збудаванні вельмі дарагія, і неяк заўсёды на іх не хапала грошай.

І вось ў сямідзесятыя гады пачала выяўляцца пагроза занечышчэння навакольнага асяроддзя. Трэба было закрыць некаторыя пляжы пры Балтыйскім моры, таму што вада магла выклікаць захворванні. Дало аб сабе знаць прадпрыемства мінеральных угнаенняў у Пулавах, вакол якога сохлі дрэвы і лясы. Найбольшыя шкоды выступілі ў горных раёнах, асабліва ў Ізэрскіх гарах.

Але ўсялякія галасы непакою змагароў за чыстае паветра і ваду гінулі ў гомане прапаганды поспехаў.

Нельга сказаць, што тады нічога не было зроблена ў справах аховы асяроддзя, але ўсім вядома, што зроблена далёка недастаткова.

Экалагічная бесклапотнасць — гэта блізарукасць у бачанні найважнейшых спраў — здароўя і жыцця нашага і будучых пакаленняў. На шчасце, у апошнія гады на ахову асяроддзя і воднай гаспадаркі прызначаецца

(Працяг на стар. 11)

## НЕ ЗА АДНЫМ МАХАМ

Амаль усе сёлетнія майскія і чэрвеньскія мерапрыемствы, арганізаваныя БГКТ і „Нівай“, былі прысвечаны святкаванню 30-годдзя літаратурна-мастацкага аб'яднання „Белавежа“. Як знамянальна гэта для нас, беларусаў, дата, сведчыць і тое, што ў Філіяле Варшаўскага універсітэта ў Беластоку юбілей гэты быў аднатаваны першай міжнароднай навуковай канферэнцыяй. Прымеркаваны да гэтай гадавіны былі публікацыі твораў многіх нашых аўтараў у мінскім „Полым'і“ і „Гродзенскай праўдзе“, а таксама і цэлы нумар „Dyskusji“, што выдае беластоцкі Ваяводскі дом культуры. А яшчэ ў гэтым годзе, як падарунак, павінна паявіцца і двухмоўная (беларуска-польская) анталогія „белавежцаў“, і чарговы альманах „Белавежа“. Вось як! Пятага чэрвеня ў памяшканні Галоўнага праўлення БГКТ адбыўся ўрачысты сход беларускіх пісьменнікаў у Польшчы, на якім у прысутнасці палітычных і адміністрацыйных улад нашага ваяводства, была ўручана „белавежцам“ за іх столькігадовую дзейнасць калектыўная залатая адзнака „Заслужаны Беласточчыне“ і грашовая ўзнагарода (невялікая, але ўсё-такі!) ад Ваяводскага аддзела культуры. Ну і вельмі прыемна, што на гэты „белавежскі“ юбілей знайшлі час прыехаць і ўквеціць яго прафесійныя творцы з Гродна — паэтэса Данута Бічэль-Загнетава, паэт Юрка Голуб і празаік, старшыня гродзенскага аддзела Саюза беларускіх пісьменнікаў Аляксей Карпюк.

Першае знаёмства з гродзенскімі госцьмі пачалося назаўтра, пасля іх прыезду, ад прэм'еры ў Ваяводскай бібліятэцы беларускай кнігі „Краю, мой Нёман“. Такая форма абмену кніжнымі навінамі паміж беластоцкім літаратурным асяроддзем і гродзенскім, паводле дагавору, мае ўвайсці ў пастаянны каляндар прыгранічных культурных сувязяў.

На працягу тыдня (ад 31 мая да 6 чэрвеня) госці паспелі зведаць не толькі Беласток, але і Варшаву, Бельск, Гайнаўку, Белавежу, Супрасль ды родныя мясціны легендарнага Кастуся Каліноўскага: Мастаўляны, Ялоўку, Валілы. Цягнула сюды перш за ўсё Аляксея Карпюка, які тут, у Страшаве, нарадзіўся і тут жа ў гадах айчыннай вайны партызаніў. Былі, вядома, наладжаны сустрэчы з вучнямі нашых беларускіх ліцэяў, а таксама з журналістамі „Нівы“ ды беларускімі актывістамі ў Беластоку, а потым яшчэ і ў Гайнаўцы.

Прыезд беларускіх пісьменнікаў на Беласточчыну, да суродзічаў-беларусаў — з'ява ў пасляваеннай Польшчы даволі рэдкая. Адважваліся толькі найбольш высокапастаўленыя. Не будзем утойваць — іншыя цу-

# Клікала родная зямля...

Было гэта роўна год таму назад і таксама быў пачатак лета. Паветра пахла падсушанай травой, квітнеючымі васілёчкамі і рунеючым жытам. Недзе ў паветры спяваў сваю адвечную песню жаваранак. У буслянках нараджалася новае жыццё. Старая бусліха чакала з нецярплівасцю малых, а бусел-бацька абвяшчаў свету сваю радасць. Сям'я буслінaя абнадзейвалася прадаўжэннем свайго роду. Абнадзейваліся і мы — маладыя людзі, якія з'ехаліся на супольнае вандраванне па нашай малой бацькаўшчыне, з'ехаліся з розных куткоў Беласточчыны на I вучнёўскі рэйд „Лета'87". Родная зямля нас клікала, родная зямля нас запаланіла. Здавалася, што душа, вандруючы па прасторах зямлі, увайшла ў яе прыгажосць.

Для тых, якія не маглі прысутнічаць у рэйдзе, прапаную супольную вандроўку па родных мясцінах на старонках „Нівы". Для тых, якія былі, будзе гэта прыемны ўспамін.

*

Першыя былі Студзіводы, калісь вёска, а цяпер квартал Бельска. Быў тут панскі двор, рос вялікі бор, а ля ўезду ў вёску стаяла карчма яўрэя. Кажуць, што ля мастка на дарозе ў Бельск уначы страшыць. Пан Даніла Студзіводскі, які даўным-даўно ўтапіўся ў дворскім ставку, калі прабаваў з двара паляцець сваёй лётняй, выходзіць у зорныя ночы, каб пагаварыць з некім. Людзі бачылі яго, але ніхто не быў настолькі смелы, каб пагутарыць з панам.

За вёскай, ля лесу „Асушка" стаіць каменны крыж. Існуе вось такая легенда. Калісьці ў Студзіводы прыйшла зараза. Людзі паміралі адзін за адным. Ажно аднаму дзядзьку прыснілася такое: за адну ноч трэба вясковым мужчынам зрабіць вялікі крыж дубовы, а жанчынам саткаць столькі палатна, каб крыж абвязаць ім. Так жыхары і зрабілі. Крыж паставілі на разыходных дарогах каля „Асушка". Людскі падзвіг перамог. Зараза адступіла. Доўга прастаяў драўляны крыж. Недзе 60 гадоў таму ён зваліўся і ў гэтым месцы паставілі каменны. Можна здагадвацца, што вытокі легенды мо 150-гадовай даўнасці.

Развіталіся мы са Студзіводамі наступным днём. „Зімоваю" дарогай, што вядзе да Рэйпіч, увайшлі ў лес „За быстрым". За лесам трапілі на хаты, жыхары якіх ужо старыя, дажываюць свой век. Стаяць хаты занядбаныя, паўразбураныя. Гэта хутары вёскі Леўкі, якія былі заселены „за цара" і ў перыяд санацыі. Відаць, не зжыліся з гэтай зямлёй.

Непадалёку ад хутароў шуміць лес, які хавае перад людзьмі таямніцу. Знаходзіцца ў ім пяць вялікіх ямін. Несумненна, тут былі магілы. Каля вёскі Рэйпічы ў чэрвені 1941 года быў разбіты савецкі атрад. Многа ваенных тады загінула. У гэтым лесе іх пахавалі. Але ці магілы з апошняй вайны былі першымі ў гэтым месцы? Кажуць старыя людзі, што даўно таму хавалі ў лесе нейкіх „мяцежнікаў". А гэтымі „мяцежнікамі" маглі быць паўстанцы 1863 года. Аб гэтым можа сведчыць яшчэ адно. У лесе стаяў да вайны высокі крыж, які ў час капання магіл савецкім салдатам кудысьці перанеслі.

Дык можа тут, у гэтых лясах: „Макрэншчыне", „Засценках", „Асушку", „За быстрым" гучалі 125 гадоў таму словы:

— Каго любіш? —

— Люблю Беларусь!

(кліч беларускіх паўстанцаў 1863 г.).

Ад магіл недалёка да „Мельніцкага гасцінца". Гэта стары рускі шлях, які вёў з Бельска ў Мельнік. Па гэтай дарозе перакацілася нямала нашай гісторыі. Сюдою ехалі князі і воіны. Сюдою ўцякалі бельскія жыхары ад раз'юшанай „Залатой арды". Не адзін пасланец пераехаў з Мельніка ў Бельск і Гародню, паведамляючы народ аб важкім здарэнні, аб пагражаючай небяспецы. Слядамі колішніх пасланцаў ступалі вандраўнікі „Лета '87". Дайшоўшы „Мельніцкім гасцінцам" да Мокрага, накіраваліся мы ў Кнарыды. Вёска вялікая, на могілках за вёскай стаіць царкоўка з 1841 года. Ад царквы лугамі можна дайсці да маленькай каплічкі. Стаіць яна на крыніцы з вечнаю вадою. Каля яе на працягу многіх дзесяткаў (сотняў!) год веруючыя людзі ставілі крыжы. З месцам гэтым звязана цікавая легенда:

...Даўным-даўно дарогамі і бездарожжамі ішоў сляпы хлопец са сваім бацькам-праваднікам. Доўга ішлі праз балоты і пустэчы, лясы і палі, ажно выйшлі на забалочаную паляну. Нешта падказала сляпому, каб ісці ў сярэдзіну паляны. Хлопец пацягнуў бацьку за сабой. Ледзь не топячыся ў дрыгве, пачалі падыходзіць да сярэдзіны паляны. І тут бацька ўбачыў, што на вялізным камені стаяла прыгожая Белая Дзева, а каля яе стаяў маленькі хлопчык. Яны так ласкава глядзелі на бацьку з сынам. Праз хвіліну Белая Дзева з хлопчыкам адыйшла ў імглу, а з-пад каменя пачала біць крыніца з чыстаю вадою. Хлопец дакрануўся да вады і прамыў ёю твар. І стаўся цуд! Хлопец убачыў!

Белая Дзева вярнула яму зрок...

Праз гады ў тое месца пачалі зыходзіцца хворыя людзі, пераважна сляпыя. Кожнаму вада вяртала здароўе і зрок. Некаторыя ставілі крыжы, а потым пабудавалі тут каплічку. Некаторыя засталіся ў гэтых мясцінах, даючы пачатак Кнарыдам.

...Да сёння ляжыць камень, на якім уважлівы чалавек заўважыць чалавечыя сляды...

Ад Кнарыдаў некалькі вёрст (6 км) да Дубяжына і Падбелля. „Слаўная вёска" — так называюць Дубяжын жыхары суседніх сёл. Вёска знаходзіцца далёка ад галоўных дарог, з цікавай гісторыяй, мае вельмі спяваючых жыхароў (напомню „Дубочкі") і адну вялікую асаблівасць — Дубяжынскую гару. Аднак мінаем Дубяжын. Наша вандроўка вядзе далей да Падбелля. Падбелле ад Дубяжына аддзяляе толькі рэчка і лугі. Калісьці ў Падбеллі стаяў двор. Быў, на жаль разбураны ў канцы II сусветнай вайны. Сёння яшчэ расце парк дворскі, у памутнелых сажалках спяваюць жабы, ціхія воды нясе Белая. А вялікія вязы над рэчкай пад шэлест лісцяў выказваюць нейкі сум і тугу. Стаіць каля парку паўразбураная капліца — месца спачынку колішняга ўласніка Падбелля, царскага генерала Жаўтухіна, яго жонкі і няні.

У Падбеллі ёсць царква. Прыхадское свята — св. Пр. Ільі. Царква гэта была пастаўлена ў 1871 годзе намаганнямі айца Ільі Талызіна. У часе яе будовы стаяла ў Падбеллі другая — Прэабражэнская царква, якая памятала, мабыць, час увядзення уніі (пач. XVII ст.). За час 50 гадоў у Падбеллі было 2 царквы. На жаль, у 1923 годзе Прэабражэнская царква згарэла, а з ёю многа старажытных ікон, літургічных прадметаў, дакументаў. Засталася пустая плошча і крыж на месцы алтара...

Крыжы... колькі ж у нас крыжоў! Старажытныя і новыя, драўляныя і каменныя, прыдарожныя. Кожны з іх сведчыць жывым аб чыімсьці горы, бядзе, надзеі. Іншы выказвае смутак, але і дае запавет нашчадкам: **„Ведайце, я сведчу аб тых, якія загінулі, бо кахалі сваю радзіму, свой народ і родную мову. Памятайце, дзеля чаго яны памерлі і будзьце годнымі іх паслядоўнікамі!"**

**Вось такія словы прыходзяць у галаву, калі стаіш ля крыжа паўстанцам 1863 г. на могілках у Мокрым. Прыпамінаюцца магілы ў Рэйпіцкім лесе і сказанае людзьмі. Так, несумненна, гэта той крыж быў перанесены з лесу (3 км. ад могілак). Якія паўстанцы загінулі каля Рэйпіч, колькі іх было — ці гісторыя калі-небудзь адкажа на гэтыя пытанні?**

*(Заканчэнне ў наступным нумары)*

**Мікола Сахарэвіч**

---

раліся нас з палітычна-ідэалагічных прычын, і мы аб гэтым ведалі. Мы былі для іх калі не эмігрантамі, то, мусіць, „разлагающим" заходнім элементам, якога трэба далёка абмінаць... Мы былі непатрэбныя ні Мінску, ні Варшаве, хоць тыя ж палякі дазвалялі нам здаўна тэарэтычна лямантаваць-пісаць аб трагічным, на сучасным этапе гісторыі, становішчы беларускай культуры, беларускіх школ, беларускай мове і беларускай свядомасці не толькі ў нас, але ўвогуле ўсёй нацыі. Штучнае аддзяленне звыш трохсоттысячнага беларускага насельніцтва Польшчы ад жывой крыніцы-прамацеры не паспрыяла нашай агульнай справе. І таму, калі да нас прыехалі доўгачаканыя гродзенскія пісьменнікі, у шчырых размовах, асабліва з гайнаўскім актывам, мы хацелі адразу, адным махам, выліць усе свае набалелыя за гэтыя гады стагнацыі праблемы. І з нашага і з іхняга боку адазваўся проста недахоп абмену асноўнай, элементарнай культурнай інфармацыі, недахоп нармальнага абмену думкамі. Пасыпаліся папрокі: каму ў каго вучыцца, хто каму мае дапамагаць? Калі літоўцы пільна сочаць за сваімі пабрацімамі ў Польшчы, а палякі — за палякамі ў Савецкім Саюзе, то чаму ўсё нельга і нельга беларускім ліцэістам, студэнтам, настаўнікам, актывістам паехаць у Гродна, да якога з Беластока намнога бліжэй, чым у Варшаву: Чаму не запрасіць на Гродзеншчыну нашыя мастацкія калектывы, чаму не насыціць нас і нашы школы беларускімі кнігамі з розных галін ведаў? Чаму так цяжка дайсці нашым навучэнцам да беларускіх вузаў? І гэтак далей. Усе пытанні, на фоне дэмакратычнага зруху ў Савецкім Саюзе, адраджэння Беларусі, былі вельмі сэнсоўныя — і балючыя, і адрасаваныя кампетэнтным людзям, хоць вядома, што пісьменнікі гэта не адміністратары.

Недзе збоч гэтых генеральных разважанняў аб беларуска-беларускіх сувязях засталіся, як мне здалося, на жаль, не адбытыя размовы пра чыста літаратурныя кантакты між „белавежцамі" і гродзенскімі пісьменнікамі. Але, відаць, і тут патрэбныя часцейшыя сустрэчы людзей. Часцейшыя размовы, дыскусіі, спрэчкі. Без гэтай блізкасці нічога само не зробіцца. А за адным махам наладзіць узаемаразуменні ў дзеяннях — як відаць, ніяк немагчыма.

**Ян Чыквін**

**Фота В. Рудчыка**



*Гродзенскія літаратары сярод беластачан: (справа) Віктар Швед, Янка Зенюк, Аляксей Карпюк, Васіль Петручук, Данута Бічэль-Загнетава, Валянціна Казімерчык і Юрка Голуб.*

# Свята нашай культуры

(Працяг са стар. 1)

добрымі перспектывамі „Любашкі", танцавальна-вакальны калектыў, у якім спяваюць людзі Кляшчэляў і Дабрывады. Затым спяваў слаўны ўжо вялікі гайнаўскі хор. Як заўсёды, цудоўна заспявалі „Каласкі", „Гарадок", „Васілёчкі" і гродзенскія „Музыкі". Цікавым было супольнае выступленне салістак Любы Гаўрылюк з беластоцкіх „Каласкоў" і Зоі Дзмітрук з гродзенскіх „Музыкаў". Іх частушкавая пераклічка выклікала буру апладысментаў.

Заключным момантам канцэрта было выступленне „Музыкаў". Ядро гэтага самадзейнага калектыву складаюць адукаваныя музычна людзі, у большасці — настаўнікі музыкі ў розных школах свайго горада. Раней гэтыя музыкі былі членамі аркестравай групы ансамбля „Нёман". Два гады назад хлопцы вырашылі спрабаваць сваіх сіл на ўсесаюзнай эстрадзе. І ўдалося! Калектыў „Музыкі" стаў лаўрэатам II Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці.

Кіраўніком ансамбля з'яўляецца Валерый Самуйлін, выкладчык Гродзенскага музычнага вучылішча. Ён жа ў ансамблі грае на скрыпцы. Віктар Вашкевіч, настаўнік музыкі ў школе, грае на цымбалах, Міхась Булкевіч — на беларускай дудцы, Рышард Яновіч папісваўся перад публікай граннем на звычайным кмене, што расце ў нас як зелле ў агародзе, а таксама і на лірычнай жалейцы, Валя Блінова — на скрыпцы, Алег Патлаты — на альтоўцы. Граюць у калектыве і Эдуард Ціховіч, і Васіль Жэгалік. Беларускія музыкі паказалі публіцы, што граць можна дасло ўна на ўсім: на кменавай дудцы, на дошцы-прачы, так, на тым самым прачы, якім некалі адбельвалі палатно на рэчцы, нават на валкаўніцы для бялізны. Выступаюць у калектыве і танцоры. Але „Музыкі" лічаць, што іх калектыў знаходзіцца яшчэ на этапе фармавання. Пакуль што ў іх толькі адна салістка — Зоя Дзмітрук. Хоць спявае яна цудоўна, усё ж не можа запэўніць разнастайнасці ўражанняў. „Музыкі" аб'явілі конкурс на прыём у калектыў новых салістаў.



*Гарадоцкі самадзейны калектыў.*

Значыць, у хуткім часе яны ўзбагацяцца новымі цікавымі галасамі і будзе больш у рэпертуары беларускіх народных песень. А граюць „Музыкі" захапляюча: плыве ў іх народная музыка, як на вясковых гуляннях, ды так, што душа і ногі рвуцца да полькі, да кадрылі.

За некалькі дзён пабыўкі на Беласточчыне гродзенцы далі 9 канцэртаў і ўсюды іх сардэчна віталі, прасілі бісаваць, а потым прымалі, чым мелі, як родных братоў.

Цудоўны быў бы гэта канцэрт, сапраўднае свята беларускай культуры, каб не некалькі прыкрых момантаў, пра якія не магу прамаўчаць.

Па-першае. Дзіву даюся, што свята беларускай культуры сёлета ў амфітэатры мела наогул публіку. На ўсім горадзе ніхто не бачыў ніводнай афішы. Не было аб гэтым аб'яўлена і ў „Ніве". Трохі дапамог справе Валодзік Праховіч, аб'явіўшы аб канцэрце ў амфітэатры ў беларускай перадачы Польскага радыё, а таксама ўспамянула пра свята „Газета Вспулчэсна" ў сваім суботне-нядзельным выданні. Усё ж публіка была. Але многія трапілі ў амфітэатр выпадкова, выбраўшыся з дзецьмі на нядзельны шпацыр, а іншыя, даведаўшыся ад суседзяў на другі дзень, моцна шкадавалі, што нічога не ведалі. Навошта ж такая таямніца?

Па-другое. Гэта быў канцэрт-марафон, які працягваўся больш чатырох гадзін, ад 14-ай да самага вечара. Як жа было людзям, часта з малымі дзецьмі, дачакацца тых найлепшых, якія, як вядома, выступаюць на самым канцы? Людзі траплялі на канцэрт яшчэ не паабедаўшы, а тут, на месцы, пажывіцца не было чым. Нельга сур'ёзна браць пад увагу адну аб'язную аўтамашыну фірмы „Сполэм", з якой прадалі некалькі порцый гарачых каўбасак, а потым былі ўжо толькі сухія коржыкі ды аранжада па 80 зл. за бутэльку. Меў быць таксама вялікі кніжны кірмаш. Але скончылася толькі на скромным століку з выдавецтвамі БГКТ.

Мяркую, што расцягванне канцэрта ў такіх умовах было проста арганізацыйным недаглядам. Першая палова канцэрта была непатрэбна расцягнута, слабейшыя калектывы далі



*Хлопцы з ансамбля „Музыкі".*

# Паходня — гэта агонь

(Працяг са стар. 1)

**Аляксандравіч Ткачоў**, доктар гістарычных навук. Ён не адмовіўся, бо і сам патрабаваў адпаведнага форума, каб падзяліцца ведамі аб складанай гісторыі Беларусі.

— Міхаіл Аляксандравіч якраз і стаў духоўным правадыром клуба „Паходня", ягоным розумам, — адзначае Данута Бічэль-Загнетава. — Ужо ў першую сваю прысутнасць на другім пасяджэнні „Паходні" доктар Ткачоў захапіў проста ўсіх слухачоў. Ён валодае рэдкім талентам добрага прамоўцы, а да таго яшчэ і грунтоўна ведае тое, пра што гаворыць. Тэмай яго доктарскіх даследаў былі складаныя падзеі на беларускай зямлі ў XVII і XVIII стагоддзях.

Цяпер доктар М. А. Ткачоў афіцыйна лічыцца старшынёю гістарычна-культурнага клуба „Паходня", які налічвае ўжо звыш ста членаў. Праца гэта, вядома, выключна грамадская ды і членства ў „Паходні" фармальна нідзе не рэгіструецца. Лічыцца праца, фактычныя здзяйсненні. Фармальна, аднак, клуб зарэгістраваны як адна з секцый гарадскога Дома культуры ў Гродне. Дык нельга лічыць іх так званымі „нефармаламі". У іх дзейнасці няма нічога канспіратыўнага, падпольнага. Можа, толькі метады працы крыху нетыповыя, непрывычныя.

— Спачатку, — расказвае Д. Бічэль-Загнетава, — наладжвалі яны звычайныя пасяджэнні, на якія запрашалі вядомых спецыялістаў па розных галінах навукі і грамадскай актыўнасці. Мяне, для прыкладу, запрасілі яны недзе ў маі таго ж 1986 года, каб я расказала ім аб пісьменніцкім пленуме. Зайшла я ў клуб, пагутарыла, паслухала і зразумела, што маё месца таксама ў „Паходні", што „паходнеўцы" блізкія мне па сэрцы.

Тады якраз археолаг **Алег Трусаў** працаваў на раскопках у раёне Гродзенскага замка. Запрасіў ён на дапамогу членаў „Паходні". І гэта ім спадабалася. У сваю праграму ўключылі яны практычныя пачыны.

Тут, для прыкладу, можна прыгадаць пачын па ачыстцы Гараднічанкі, якую жыхары Гродна зусім справядліва называюць звычайна „Ванючкай". На ачыстцы Гараднічанкі „паходнеўцы" працавалі некалькі нядзельнікаў. Затым выносілі яны век-вечнае смецце з развалін касцёла св. Брыгіды — аднаго са старэйшых помнікаў архітэктуры ў Гродне, які мае быць адбудаваны і пераўтвораны ў канцэртную залу. Пасля наладзілі яны паездку ў Кушляны — на радзіму **Францішка Багушэвіча**, **які так горача заклікаў усіх беларусаў шанаваць родную мову. Пасадзілі там кветкі, навялі парадак на панадворку і на магіле паэта. Пабывалі і ў Вільні, каб ускласці кветкі на памятнай пліце, на тым месцы, дзе стаяла шыбеніца, на якой загінуў Кастусь Каліноўскі.**

— Вось такая ў нас дзейнасць, — сцвярджае Данута Бічэль-Загнетава. — Але гэта яшчэ не ўсё. Вельмі ж шмат увагі адводзім мы змаганням за родную мову. Пішам, для прыкладу, калектыўныя заяўкі да гарадскіх улад, каб у назвах вуліц і на шыльдах устаноў ды магазінаў карыстацца беларускай моваю. Калі нам доўга не адказваюць, дык мы выклікаем на размову адпаведных працаўнікоў гаркома. Адным словам, муцім застыўшую ваду, намагаемся зру-

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## МАГНІТАФОН

Максім ніколі не мог заснуць, пакуль не паслухае якую-небудзь казку. І не адну, а некалькі. Расказваў бацька, расказвала маці. Хутка ім надакучыла паўтараць адно і тое ж, і яны купілі магнітафон.

— Вось цяпер, Максімка, слухай казкі хоць усю ноч, — сказаў бацька, паклаўшы на падушку ля хлопчыка невялічкую чорную скрыначку, шчоўкнуў кнопкай.

Палілася музыка, затым пачуўся ласкавы незнаёмы голас.

Максімка часта слухаў радыё, глядзеў тэлевізар і ведаў, што туды ўсё перадаецца па праводах, праз кантакт. А тут не было ніякіх правадоў. Ляжала скрыначка і сама сабе баяла казку.

— Тата, — пацікавіўся Максімка. — А хто ў гэтым магнітафоне расказвае?

— Там жывуць маленькія чалавечкі, яны і расказваюць, — растлумачыў бацька і выйшаў з пакоя.

Максім яшчэ ніколі не бачыў маленькіх жывых чалавечкаў, і яму вельмі захацелася хоць адным вокам глянуць на іх. Ён сеў, узяў магнітафон і пачаў яго вывучаць з усіх бакоў. У адным месцы яму ўдалося ўзняць невялічкае вечка і выцягнуць адтуль вузенькую карычневую стужачку. Чалавечкі прыціхлі. Больш нідзе нічога не адчынялася. Раззлаваны Максім ударыў магнітафонам аб край ложка. Збоку адвалілася тонкая пласцінка. Паказаліся блытаныя рознакаляровыя дроцікі, нейкія вінцікі, калёсікі.

— Што за грукат? — прыбег бацька. А за ім і маці.

— Татачка, тут няма ніякіх чалавечкаў, — расчараваны паведаміў Максім.

— Што ты нарабіў? Разбіў магнітафон... Я вось зараз пакажу табе чалавечкаў, — бацька схапіў хлопчыка за руку, прыўзняў, відаць, мерыўся адшлёпаць яго за свавольства, але за малога заступілася маці.

— Не трэба перад сном, заўтра разбярэшся, — і выправадзіла бацьку са спальні.

— Мамачка, я не хачу слухаць той магнітафон, — ледзь не плакаў хлопчык. — Там няма ніякіх чалавечкаў...

— Чалавечкі паўцякалі, яны не любяць, калі хто ломіць іх хатку, — яна накрыла сына коўдрай, сама прылегла побач.

— Я болей не буду ламаць іх хатку, — паабяцаў Максім. — Г слухаць іх не буду. Ты сама мне будзеш расказваць. Добра?

— Добра, добра, сынку.

— Тады раскажы мне адну. Толькі доўгую-доўгую...

Прытуліўшыся тварыкам да цёплай рукі маці, хлопчык хутка заснуў.

**Лявон Гук**



*Так прадстаўляла сябе каманда дзяцей з Рыбалаўскай прадукцыйнай спулдзельні, якая ўдзельнічала ў багатым конкурсе і спартыўных спаборніцтвах. Каманда СПР заняла трэцяе месца ў конкурсе, прысвечаным шкоднасці алкаголю для маладога арганізму. Было гэта 1 чэрвеня ў Рыбалах. Дзеці адказвалі на шматлікія пытанні, а таксама спаборнічалі ў розных вясёлых гульнях.*



*На дзень дзіцяці ў Рыбалах у вясковым доме культуры дзяцей частавалі малочным кактэйлем і салодкімі ласункамі жанчыны з пункта вясковай гаспадыні, якія працуюць пад кіраўніцтвам інструктара Ніны Нікалаюк. Смачны быў пачастунак.*

**Фота Я. Чэрнякевіч**

**Мікола Капыловіч**




Больш за ўсё любіў Тонік крывіць на ўроках твар. Спачатку гэта вучняў і настаўніцу забаўляла, цешыла, але хутка Тонікавы крыўлянні ўсім абрыдлі. Сказалі пра гэта Тоніку — ён сваё. Сказалі яго бацькам — не дапамагло. У насценнай газеце пакрытыкавалі — усё дарэмна. Што рабіць?

— Ты ў нас, Тонік, сапраўдны артыст! — сказала неяк яму настаўніца. — Клоун!

— Ага! — падскочыў Тонік і зноў скрывіў на бок твар.

— Чаму б табе, Тонік, не павесяліць, не пацешыць вучняў усёй школы, не выступіць на заўтрашнім канцэрце, га? — працягвала настаўніца.

— На канцэрце? — зноў падскочыў Тонік. — Гэта можна! Гэта я змагу!

— Вось і дамовіліся... Значыцца, заўтра?

— Заўтра! Заўтра!

Да вечара крыўляў-перакрыўляў перад люстэркам Тонік свой твар — рэпеціраваў. Нават ноччу кепска спаў — практыкаваўся. А раніцай Тонік прыйшоў у клас сонны, пахмурны. І калі пачаўся канцэрт, хацеў быў уцячы дамоў. Ледзь стрымалі!

— Канцэрт, — сказалі, — сарвеш...

Канцэрт Тонік не сарваў. Толькі аб'явілі яго нумар — тут як тут! — выскачыў на сцэну. Выскачыў, перапалохана вылупіў вочы на вучняў і... і зарумзаў.

Зала лягла ад рогату.

— Вось дык і Тонік! — ачомаўшыся, крычалі гледачы. — Артыст! Клоун!

Вучні смяяліся, Тонік плакаў, а настаўніца старалася ўсіх супакоіць. Але дзе там! Давялося, як кажуць у тэатры, даць заслону.

## ВЕРШЫ ВІКТАРА ШВЕДА

### ЧАМУ ТЫ СПІШ У АКУЛЯРАХ?

Бабульку запытаў малыш,
Калі прачнуўся раніцой:
— Чаму ты ў акулярах спіш
Начною цёмнаю парой?

— У акулярах мне, сынок,
Спаць давядзецца надалей.
Пагоршыўся слабы мой зрок,
У сне не пазнаю людзей.

### НАЙМАЦНЕЙШАЯ БАБУЛЯ

Задумоўваліся дзеці:
Наймацнейшы хто на свеце?
Адазвалася Ганула:
— Наймацнейшая бабуля.
Яна хутка і з ахвотай
Робіць кожную работу.
На плячах сваіх трымае
Дом, бабуля дарагая.

### ЗЯЛЁНЫ ТРАКТАР

Можна доўга захапляцца,
Колькі ў краме розных цацак.
Сярод лялек і мядзведзяў
Раптам трактар Коля ўгледзеў.
— Ты купі мне трактар
з полкі, —
Бацьку папрасіў Міколка.
— Маеш, дзетка, мой характар,
Як цікавіць цябе трактар.
Збудзецца хай твая мара,
Калі хочаш гаспадарыць.
Заўтра з трактарам зялёным
Коля выйдзе на загоны.

### КАЗА І ЛАЗА

— Што ты малюеш?
— Казу і лазу.
— А дзе ж тая лаза?
— З'ела каза.
— Няма ж і казы.
— Як ёй жыць без лазы?

### ДУРНЫ, ЯК З ЛЕВАЙ НАГІ БОТ

„Дурны, як з левай нагі бот".
Разважвае Ягорка:
— Чаму прыдумаў наш народ
Такую пагаворку?

Чаму дурны? Такі адказ
Пачуць было б цікава.
Чаму разумны стаў якраз
Той бот, што з нагі правай?

### ІЛГУН

Ён не толькі балбатун,
Ён найгоршы ў нас ілгун.
Хлус папросту наш Валерык
І ніхто яму не верыць.
Заўсягды без перабою
Ён займаецца хлуснёю.
Каб ён нават прысягаў,
Кожны скажа: зноў салгаў.
Я ўсялякім ілгунам
Вось такую раду дам:
Лепей, дружа, памаўчы,
Чымсьці ўсцяж хлусню таўчы.

### У ЛЯНОТЫ ЎСЁ НА ПОТЫМ

Лянота любую работу
Адложыць заўсёды на потым.
Яна мае ў хаце і ў класе
Шмат заўтрашніх дзён у запасе.
Аднак жа дзён гэтых замала
Каб з месца работа кранала.
Адно выключэнне ў ляноты:
Яды не адложыць на потым.

## ПАЗНАЕМ ПРЫРОДУ



Малюнак 1. Матыль аўсяніка. Нічога не есць. Рот мае недаразвіты. Замест унутранасцяў змяшчае ў сабе паветраны пухір. Жыве толькі 1-3 дні. Яго заданне — прадаўжэнне свайго роду. І тады гіне. Мал. 2. Лічынка аўсяніка. Жыве на дне ракі да трох гадоў. Маль 3. Азёрная жаба. Жыве ў вадзе сажалкі. На зіму закопваецца на схілах выкапу. Мал. 4. Сажалкавы малюск. Пераносчык пакутлівай хваробы — матыліцы, якая атакуе кароў, авечак, дзікіх коз і іншых жывёл. Мал. 5. Малюск грунтавы. Зімуе ў шчылінах стромай сцяны пясчаністага ўзгорка — камы.

Мал. Інж. Б. Рудкоўскіна

## Пішуць школьнікі

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

Ізноў Табе пішуць беларускія дзеці з Гданьска.

Хочам расказаць пра нашую ўрачыстасць з аказіі Міжнароднага Дня дзіцяці.

Было вельмі прыемна. Мы запрасілі бацькоў і многа гасцей. Усе прыбылі, запоўнілі дзве залы.

Мы падрыхтавалі песенькі і вершы. Найбольш было вершаў Віктара Шведа, але таксама і Наталлі Арсеньевай. Наш дзіцячы калектыў заспяваў дзве песні. „Мы першакласнікі" і „Музыка лесу", і сяброўка Кармэн спявала сола „Шукаў Сярожа звода".

Наша настаўніца Анна Іванюк і музычны інструктар Ірыней Лаўрэшук былі намі вельмі задаволены. Некторыя бацькі мелі слёзы на вачах ад радасці. Не змаўкалі воплескі. Пасля выступлення мы атрымалі падарункі — кніжкі і лізакі. Была добрая музыка, і ўсе танцавалі. а пасля пілі чаёк і елі смачнае пірожнае.

Было вельмі весела, шкада толькі, што сапсаваўся фотаапарат і мы не маглі зрабіць здымкаў.

Цяпер мы развучваем новую песню „Люблю 'наш край". Будзем яе спяваць на заканчэнне школьнага году. Пастараемся зрабіць здымкі і прыслаць да „Зоркі".

Кармэн, Эля, Марцін, Лідка, Томэк, Агата, Кася, Марыюш, Івона і Павел. Гданьск.

## УДЗЕЛЬНІКІ КОНКУРСУ „БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ 88"



Славік Харкевіч з Нараўкі.



Мар'юш Мараўка з Пашкоўшчыны. Фота Я. Чэрнякевіч.

Віктар Гардзей

### СЕНА ДЗЕД І ЎНУК ЗГРАБАЛІ...

Сена дзед і ўнук зграбалі,  
Але вось абед настаў,  
Торбу з харчам развязалі,  
І тут дзед пажартаваў:

— Штосьці мала награблі мы,  
Ніякой нам пахвалы.  
— І нядзіўна, — кажа Дзіма, —  
Ты — стары, а я — малы.

У цяньку абедаць селі,  
І вось скончыўся абед.  
— Штосьці шмат з табою  
з'елі, —  
Усміхнуўся у вусы дзед.

Дзіма, лёгшы пад ляшчынай,  
Дажаваў хлеб акурат.  
— Ты — мужчына,  
Я — мужчына,  
Дык чаму ж не есці шмат?

### ДАПАМОГ...

Брат сядзіць і ледзь не плача —  
Не рашаецца задача.  
Вось бяда, такое гора:  
Як знайсці квадратны корань?

Віцька бачыць роспач брата  
І бяжыць у сад з лапатай.  
Тут зямля ўся пад нагамі  
Заплялася каранямі.

Ён дзірван зразаў да зморы:  
Дзе ж ты, дзе, квадратны  
корань?  
Гроб зямлю і потым ціха  
Кажа Віцька:  
— Што за ліха?  
Карані, дзе ні капаю,  
Толькі круглыя вымаю.

### ЗАЙ, ЯКІ ЛІЧЫЎ ВАРОН

З хаты выбег зай вучоны  
І варон лічыць пачаў:  
— Дзве вароны... Тры вароны...  
Спатыкнуўся зай і ўпаў.

Рагаталі нават совы:  
Недарэка з недарэк!  
Зай упаў на корч яловы  
І сабе губу рассек.

Звалі доктара сарокі,  
Ды ў ад'ездзе доктар быў.  
Небарака ж касавокі  
Рану кепска залячыў.

У сябе над галавою  
Зай не лічыць больш варон.  
Бо з раздвоенай губою  
І сягоння ходзіць ён.

### АДЗАВІСЯ, ІВОНКА!

У куточку „Пазнаёмімся" быў змешчаны адрас дзяўчынкі Арынты з савецкага горада Укмерге. Звярнула ўвагу на гэты адрас дзяўчынка з Польшчы Івонка, якая паслала Арынце пісьмо. У адказ на Івончына пісьмо Арынта (Орынта Працевичютэ) прыслала Івонцы сваю фатаграфію і шмат прыгожых паштовых марак. Але пісьмо гэта заадрасавала да „Зоркі", не падаўшы Івончынага адрасу.

Адзавіся, Івонка! Забяры з рэдакцыі Арынчына пісьмо. І сябруйце! Відаць, вы абедзве любіце мець сяброў і перапісвацца з імі.

„Зорка"

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 3-А, кв. 85. Наташы Санкевіч. 6 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 9, кв. 72. Свеце Кузняцовай. 6 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Р. Люксембург, 116, кв. 183. Сяргей Чэтаеў. 4 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Карпава, 6, кв. 2. Іван Савіцкі. 4 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 4, кв. 1. Наташа Шмарлоўская. 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 109, кв. 30. Таня Клыпа. 3 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Карпава, 6, кв. 2. Віця Савіцкі. 5 клас.

* * *

БССР, 220035, г. Мінск-35, пр. Машэрава, 43, к. 1, кв. 85. Павел Бурко. 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 3-А, кв. 142. Іра Доўбня. 5 клас.

* * *

БССР, 220036 г. Мінск-36, вул. Волаха, 8, кв. 85. Павел Варажун. 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 84, к. 2, кв. 1-А. Віталь Канюхневіч. 5 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 105, кв. 3. Дзяніс Балотвін. 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 10, кв. 48. Саша Пархімовіч. 3 клас.

* * *

БССР, 220051, г. Мінск-51, пр. Дзяржынскага, 5, кв. 4. Ала Сцяпуцька. 5 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. К. Лібкнехта, 108, к. 32, кв. 46. Наташа Акуратава. 4 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. К. Лібкнехта, 112, кв. 49. Аня Жыткевіч. 4 клас.

## Вясёлы куточак

* * *

— Мамачка, дай мне яблычак, — просіць малая Ленка, калі мама кладзе яе спаць.

— Позна ўжо, Леначка, — кажа мама, — усе яблычкі даўно ўжо спяць.

— Не, мамачка, — тлумачыць Ленка, — спяць толькі маленькія, а вялікія яшчэ не.

* * *

Малая Ганка піша пісьмо сяброўцы, з якой пазнаёмілася на калёніях.

„Мілая Крыся, — піша Ганка, — пішу табе гэты ліст павольна, бо ведаю, што ты яшчэ вельмі павольна чытаеш."

## АДГАДАНКА




Прыглядзьцеся да малюнкаў і знайдзіце два зусім аднолькавыя сабачкі.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1 „Зорка".

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### ЧАМУ Ж МНЕ НЕ ПЕЦЬ?

Чаму ж мне не пець,
Чаму не гудзець,
Калі ў маёй хатачцы
Парадак ідзець?

Чаму ж мне не пець,
Чаму не гудзець —
Мушка на акенцы
У цымбалікі б'ець?

Чаму ж мне не пець,
Чаму не гудзець —
Павучок на сценцы
Кросенцы снуець?

Чаму ж мне не пець,
Чаму не гудзець —
Сынок у калысцы,
Як бычок, равець?

Чаму ж мне не пець,
Чаму не гудзець —
Парсючок пад лаўкаю
Бульбачку грызець?

Чаму ж мне не пець,
Чаму не гудзець —
Пеўнічак на сметнічку
Зярняткі дзяўбець?

Чаму ж мне не пець,
Чаму не гудзець —
Сучачка на лычку
Хатку сцеражэць?

Дык чаму ж мне не пець,
Чаму не гудзець —
Калі ў маёй хатачцы
Парадак ідзець?



— Мой парасон у аўтобусе пакінуў, разява!

## НІЎКА






### ШТО КАЖУЦЬ

— Ну, Юрка, развітайся з цёткаю! Што кажуць, калі цётка выходзіць?
— Дзякуй богу!

### НЕ ЗНОЙДЗЕШ ДУРНЕЙШАЙ

Позна вярнуўся муж дадому. Жонка і прыстала: дзе быў, што рабіў? А мужу не хочацца прызнавацца, усё выкручваецца, ды нешта няўдала.

Жонка крычыць са злосцю: не мяне ашукваць, трэба было ажаніцца з дурнейшаю! — Калі ж я не знайшоў дурнейшай за цябе! — адказаў муж.



**У яго таямніц творчасці, бадай, болей, чым творчасці.**

Анатоль Місееў

## ХВАРОБА

Вы кажаце, што не хачу перабудоўвацца? Пабойцеся бога! Віною ўсяму — мая... хвароба! Якая, пытаецеся? Пра яе адзін вядомы паэт сказаў: „Нешта з памяццю маёй стала...".

— Сяду ў аўтобус, тралейбус ці трамвай, і ў галаве пачынаюць усялякія думкі мітусіцца. Адчуваю — чагосьці не хапае, а чаго — не магу прыгадаць.

І раптам чую:

— Грамадзянін, ваш білецік!

Так і ёсць — кантралёр!

— Прабачце, — кажу яму, — хвароба ў мяне такая. Забыў купіць білет!

— Нічога не ведаю. Плаціце штраф! — прыстае ён.

Ніколі не забываю, дзе схаваў ад жонкі дзесятку, а вось калі ў яе дзень нараджэння — ніяк не запомню.

Добра помню, калі аванс і палучка, а вось у колькі пачынаецца рабочы дзень, не ведаю. Прыйду на працу — і ніяк не магу ўцяміць: што павінен рабіць. Бывае, цэлы дзень прасяджу, але так і не ўспомню.

Да каго толькі не звяртаўся са сваёй хваробай — ніякіх вынікаў. Учора, напрыклад, быў у аднаго лекара, расказаў яму ўсё, а ён мне: „Вы, грамадзянін, сумленне згубілі!"

Гэта ж трэба?! Я разумею, што можна згубіць кашалёк, капялюш, а сумленне?!.. Увогуле, што гэта за штука такая?

Пра якую ж перабудову можна гаварыць, калі ў нас такая адсталая медыцына? Га?

### ПЕНЬ-АПТЫМІСТ

— Што нізкі я, дык поўбяды, —
Пень кажа тонкі, малады, —
А пройдзе хай гадоў мо
з дваццаць —
З дубамі я магу зраўняцца!

Сустрэнеш дзе такога пня,
Што выхваляецца штодня,
Сваімі планамі, сабой,
Дык хочацца сказаць: „Пастой!"
Хіба яшчэ не адчуваеш,
Што дні свае ты дажываеш?"

### ЦІ КУРЫЦЬ КАРЫСНА

Да філосафа Дэмакрыта звярнуўся яго вучань:
— Хачу навучыцца курыць. Ці карысна гэта?
— Курэнне карысна па трох прычынах. Па-першае, хто курыць, ніколі не старэе.
— Чаму?
— Таму што не паспявае пастарэць. Ён памірае маладым.
Па-другое, у дом яго ніколі не залезуць зладзеі...
— Чаму?
— Таму што курыльшчык усю ноч кашляе, а зладзеі думаюць, што ён не спіць. Але гэта яшчэ не ўсё! Сабакі ніколі не чапаюць курыльшчыка?
— Чаму?
— Таму што ў яго рана адмаўляюць ногі і ён шкандыбае, абапіраючыся на кій. А кія, сынок, нават шалёны сабака баіцца...



— У нашай новай установе варта арганізаваць вечар знаёмства.
— Навошта? Тут усе працаўнікі мае родзічы ды прыяцелі.

## КУРЪЁЗЫ

### ПЕРАХІТРЫЎ

— Чаго ты, дружа, засапаўся, чым так узрушаны?

— Страшэнна пералякаўся! Нейкае страшылішча схапіць мяне хацела — ледзь уцёк! — з жахам расказваў ляснік сустрэтаму знаёмаму.

— Дык гавары, расказвай, дзе і як гэта было?

— Уяві сабе, браток, іду я лесам і чую, што нешта мармыча, ні то чалавек, ні то нейкі звер. Выходжу на дарогу і бачу вялізнага галюсенькага мужчыну, які вымахвае кіямі і бяццам танцуе перад фурманкай, а на конскай галаве вісяць яго нагавіцы. Як страшыдла ўбачыла мяне, пачало яно бегчы ў маім напрамку, выцiскаючы незразумелыя словы. І стаў я ўцякаць, азірнуўся, а гэтае агромністае, з чорным тварам страшыдла даганяе мяне. І я ледзь уцёк...

А Яська-страшыдла тым часам апрануўся і пачаў паганяць каня, узіраючыся ў бок Гайнаўкі, адкуль магла ехаць міліцыя. Усміхаючыся, глядзеў з задагальненнем на крадзеныя мэтры. Толькі і сказаў: „Удалося перахітрыць лясніка". (мх)



**У вадзе кожны голы чалавек выглядае, як пасол, а можа быць злачынцам.**